Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 25-га студзеня 1934.

№ 2 (27).

Год 2-гі

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

выходзіць двойчы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

Цана асобнага нумару 20 гр.

# Савецкі паход проці беларусау.

Тое, што дзеецца сягоньня ў Савецкай Беларусі, выклікае агульнае абурэньне ў усіх сьведамых беларусаў, выклікае крык гнеўнага пратэсту і асуджэньня чырвоным катам Беларускага народу. Савецкія ўлады, якія ўжо ў 1930 годзе зрабілі балючы ўдар па беларускай інтэлігенцыі, пасадзіўшы за краты або павысылаўшы ў Салоўкі ды ў концэнтрацыйныя лагеры каля двухсот прадстаўнікоў беларускага навуковага сьвету, прафэсароў унівэрсытэту з рэктарам Пічэтай на чале, былых камісараў, гаспадарчых дзеячоў і інш.,—цяпер учынілі новае „пусканьне крыві" беларусам. І гэтым разам ахвярай гвалту сталіся акурат тыя беларускія дзеячы з Заходняе Беларусі, якія—праз сваю наіўную веру ў „прыхільнасьць" камуністычнае партыі да вызвольнага беларускага руху—адыгралі ў нас далёка ня прыгожую ролю камуністычных прыслужнікаў, шчырых выпаўніцеляў кожнага загаду камуністаў... У Менску арыштаваны і аддадзены пад камуністычны „суд" блізу ўсе былыя паслы польскага сойму з клюбу „Змаганьня" і блізу ўсе павадыры „Грамады"—у тым ліку: Дварчанін, Гаўрылік, Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Валошын, Кахановіч, Бурсэвіч, а тыя абвінавачаньні, якія з бяспрыкладным цынізмам узводзяцца на іх усіх, выклікаюць толькі глыбокую агіду да абвініцеляў, адзіным „аргумантам" якіх ёсьць сьведамая, бязглуздая ілжа.

Камуністычная Партыя Заходняе Беларусі (КПЗБ) выдала спэцыяльную брашуру, у якой „апраўдывае" арышты памянёных дзеячоў, ілжыва закідаючы ім, быццам яны „супрацоўнічалі з польскай дэфэнзывай дзеля паняволеньня беларускіх сялян і работнікаў". А ў тахт законсьпіраваным аўтарам гэнае брашуры падпявае „Беларуская Газэта", пішучы, быццам Дварчанін, Бурсэвіч, Рак Міхайлоўскі, Мятла, Гаўрылік, Валошын і Кахановіч арыштаваны дзеля таго, што „выкрыта іх супрацоўніцтва з ворагамі нацыянальна-вызваленчага руху і іх актыўная шкодніцкая дзейнасьць у БССР".

Для кожнага чэснага беларуса ясна ўся бязглуздасьць гэтых ілжывых паклёпаў на арыштаваных дзеячоў. „Беларуская Газэта" піша, што „гэтыя людзі папросту былі заступнікамі Луцкевіча—тым больш шкоднымі, што больш замаскаванымі". Але-ж усім ведама, што якраз проці асобы Луцкевіча гэтыя дзеячы — пасьля працэсу „Грамады" — выступалі з нячуванай варожасьцяй—за тое, што Луцкевіч і згуртаваная каля яго група культурнікаў рашуча адмовіліся падпарадкавацца камуністычнай партыі і даводзілі адкрыта, што трэба культурную працу аддзяліць і ўнезалежніць ад палітычных партыяў. І ўжо аднаго гэтага факту, так добра знанага ў Заходняй Беларусі, было-б даволі, каб выявіць ілжывасьць усіх іншых закідаў, робленых гэтым людзям у варунках, калі яны, сядзючы ў лёхах ГПУ, ня могуць навет слова сказаць у сваю абарону.

Дык—у чым жа тут справа, за што гэтых людзей, пакорных служак компартыі, спаткала такая жорсткая расправа ў БССР—пасьля таго, як за сваю колькігадовую працу, ведзеную па лініі КПЗБ на тэрыторыі Заходняй Беларусі, яны папалі ў польскія вастрогі і былі засуджаны на доўгалетнюю катаргу?—Каб даць адказ на гэта, прыпомнім рад фактаў з мінулых гадоў.

## Савецкая палітыка ў беларускім пытаньні.

25 марца 1918 году ў Менску—з ініцыятывы братоў Луцкевічаў*)—Рада Беларускае Народнае Рэспублікі абвясьціла незалежнасьць Беларусі. Рада Рэспублікі паўстала ў выніку Усебеларускага Кангрэсу ў Менску, які адбыўся ў канцы 1917 году і быў разагнаны бальшавіцкімі штыхамі. Рада Рэспублікі мела свой мандат ад усяго Беларускага народу—ад сялян і работнікаў, якія на менскі Кангрэс наслалі каля 2,000 дэлегатаў. Рада Рэспублікі абвясьціла „Устаўную Грамату", паводле якой уся зямля павінна была перайсьці ў рукі сялянства бяз ніякага выку-

*) Гэта-ж і ёсьць прычына непрымірымае варожасьці камуністаў да гр. Луцкевіча!

пу, а фабрыкі і заводы — ў рукі працоўных. Вось гэтая самая Рада, бараніўшая, як бачым, выключна інтарэсы працоўнага народу, цьвёрда станула на грунце права Беларускага народу на самавызначэньне і абвясьціла парванымі ўсе тыя вязі, што далі Савецкай Расеі „права“ на Берасьцейскім міры прадаць Нямеччыне нашу Заходнюю Беларусь.

Гэты доказ нацыянальнае сьвядомасьці беларусаў і так ярка выяўленая воля народу жыць незалежным дзяржаўным жыцьцём прымусілі савецкі ўрад паважна лічыцца з беларускім нацыянальна-адраджэнскім рухам. І калі немцы, пакідаючы Беларусь, здалі Менск і другія гарады нашы з рук у рукі бальшавікам, прымусіўшы законны ўрад Беларускае Народнае Рэспублікі пакінуць свой край і туляцца загранічай,—дык Ленін, як геніяльны палітык, прыйшоў да перакананьня, што трэба беларусам зрабіць паважныя ўступкі, каб з ворагаў савецкае ўлады зрабіць іх прыхільнікамі яе. У мысьль гэтага і была абвешчана 1. І. 1919 году „незалежная“ Беларуская Социялістычная Савецкая Рэспубліка, зьвязаная „дабравольнай“ фэдэрацыяй з СССР.

Магчыма, што Ленін, згодна з неаднакротна выказыванымі паглядамі сваімі на нацыянальнае пытаньне, шчыра хацеў даць беларусам магчымасьць свабодна разьвіваць сваю нацыянальную культуру ў межах БССР. Аб гэтым сьведчыў той магутны размах у беларускай культурнай працы, які ў працягу некалькіх гадоў паклікаў да жыцьця тысячы беларускіх народных школ, дзесяткі сярэдніх, унівэрсытэт і іншыя вышэйшыя школы, дзяржаўны тэатр і г. д., а такжа зьдзейсьніў лятуценьне сялян аб зямлі, памагаючы тварыць па вёсках хутары, дзе беларус чуў сябе поўным гаспадаром на сваей зямлі. І вёска пачала працьвітаць і багацець. А аднача сна багацеў і працьвітаў і горад, дзе гаспадарамі былі беларускія-ж работнікі.

Ня дзіва, што і беларуская інтэлігенцыя з незалежніцкай ідэолёгіяй, якая сьпярша выэміграваламі загранiцу, пачала варочацца да краю і зусім лёяльна ў адносінах да новага рэжыму працаваць для свайго працоўнага народу. Савецкія ўлады не перашкаджалі ў працы і навет абвясьцілі шырокую амністыю для ўсіх дзеячоў Беларускае Народнае Рэспублікі.

Але—памер Ленін, і ўсё пачало зьмяняцца.

## Цень Азефа.

Разагнаўшы ўсіх супрацоўнікаў Леніна, да ўлады ў Саветах дайшоў Сталін. Сталін— гэта грузінскі рэнэгат, адступнік ад свайго народу і кат для барацьбітаў за волю Грузіі. І свой народ, і сваю душу прадаў ён Чырвонай Маскве і пайшоў рука ў руку з маскоўскімі нацыяналістамі, якія ў царскія часы душылі ўсе паняволеныя народы, як адкрытыя чорнасоценцы, а пры панаваньні Сталіна перамаляваліся ў „чырвоных“ і распачалі старую агідную работу душэньня „інородцаў“, толькі ўжо замест старога лёзунгу „единой, недѣлимой Россіи“ выступаюць пад лёзунгам „единой русской пролетарской культуры“. І вось — аднача сна з пазбаўленьнем беларускага сялянства здабытае падчас рэволюцыі зямлі — у адносінах да беларусаў пачынаецца агідная правакацыя.

Правакацыя гэтая пачалася перад усім у Заходняй Беларусі, дзе беларускі нацыянальна-вызваленчы рух выявіўся гэтак магутна ў стотысячнай „Грамадзе“. Камуністы, па загаду з Масквы, распачалі акцыю ў кірунку апанаваньня і падчыненьня сабе гэтае арганізацыі, а калі ім гэта не ўдалося, калі нацыянальны дух у грамадаўцаў аказаўся неперамо жна сільным, дык КПЗБ робіць усё, каб скампрамітаваць гэты рух у вачох польскага ўраду, і без таго у дастатачнай меры варожага да яго, і гэтак чужымі рукамі зьнішчыць тое, чаго зламаць сама ня здолела. На працэсе „Грамады“ выявілася з поўнай ачывістасьцяй, што „Грамаду“ тапілі перад усім тыя чынныя сябры камуністычнае партыі, якія аднача сна служылі і ў польскай дэфэнзыве. Даволі прыпомніць рад імёнаў забітых камуністаў-правакатараў, як Міхал Гурын, Кузьма і інш., паказаньнямі каторых, бадай заўсёды ілжывымі, карысталася абвіненьне...

Паводле пляну Сталіна, трэба было перш разграміць беларускі рух пад Польшчай, тады ўжо можна будзе распачаць паход проці беларусаў і ў Савецкай Беларусі. Тым балей, што, калі раней — пры варожых польска-савецкіх адносінах— Саветам карысна было распаляць у Польшчы „дывэрсыйны“ беларускі рух, дык цяпер — пры новым палітычным курсе і польска-савецкім збліжэньні — патрэбы ў беларускай „дывэрсіі“ ў Польшчы для Саветаў ужо няма!

„Граміць“ і руйнаваць беларускі рух у Заходняй Беларусі агенты Сталіна пачалі зараз пасьля працэсу „Грамады“. За „падставу“ для гэтага паслужыла наступнае.

## Барацьба з культурнікамі.

Тыя беларускія дзеячы, якія судзіліся за „Грамаду“ і былі з прычыны недаказанасьці абвіненьня звольнены судовым прыгаворам, па выхадзе на волю, як ужо сказана, пачалі праводзіць думку, што асновай беларускае нацыянальнае работы павінна быць праца культурна-прасьветная, унезалежненая ад працы і арганізацыяў палітычных. Група беларускіх культурнікаў з радыкальнымі паглядамі, здаўна прымыкаўшых да незалежніцкага руху, і распачала вызваленьне культуры ад палітыкі на дзеле. Першы бой з камуністамі адбыўся на грунце Таварыства Беларускае Школы і беларускіх гімназіяў, якія камуністы загадалі сваім прыслужнікам „паўзрываць“. І з прыкрасьцяй трэба прыпомніць, што гэтую падрыўную работу выконвалі перад усім беларускія паслы з клюбу „Змаганьне“, з дзіцячай бяскрытычнасьцяй выпаўняючы партыйныя загады.

Гэта выклікала развал у беларускіх установах і арганізацыях, развал усяго беларускага арганізаванага жыцьця. Правакаваныя камуністамі, беларускія гімназіі адна за аднэй былі пазычыняны адміністрацыйнымі ўладамі, ТБШ—напалову зьліквідавана і зьвязана па руках і нагох. Агенты Сталіна распачалі агідны паход проці ўсіх старых павадыроў беларускага адраджэнскага руху, якія першыя падынялі беларускія масы з векавечнага сну і паказалі ім шлях да волі. Сотні тысяч ліcткоў з такімі-ж ілжывымі закідамі найбольш паважаным дзеячом, якія цяпер робяцца „грамадаўцам" і „змаганцам", раскідаліся па краю камуністамі, і да гэтае акцыі прыкладалі сваю руку тыя-ж Дварчанін і іншыя, сьлепа веручы, што „гэта патрэбна дзеля справы!"—Не, патрэбна гэта было не дзеля беларускае справы, а дзеля таго, каб пазбавіць народ павадыроў! I калі партыя ўжо лічыла Заходнюю Беларусь даволі разгромленай, думаючы, што яна ня будзе здольна падняць свой голас пратэсту проці ўплянаванага Сталіным даўно паходу проці беларушчыны ў Саветах, тады Масква дала сыгнал да нішчэньня і тэй беларускай інтэлігенцыі, якая, верная бальшавіком, шукала для сябе вызваленьня з польскіх вастрогаў — у Саветах...

Трагічна нешчасьлівыя людзі: у вачох Сталіна яны „вінаватыя" ужо адным тым, што яны —беларускія інтэлігенты, што верылі ў прыхільнасьць Саветаў да беларускіх вызвольна-нацыянальных імкненьняў, верылі, што ў БССР запраўды адбудаваўся ўжо „Беларускі Дом", ды што ім знойдзецца адпаведнае мейсца дзеля працы тамака для свайго народу... У паходзе чырвонага маскоўскага нацыяналізму пад павадырствам рэнэгата Сталіна проці Беларускага народу ўсе яны аказаліся мімавольнай перашкодай у абмаскоўліваньні беларусаў праз „единую русскую пролетарскую культуру". I за гэта Сталін засудзіў іх на загубу.

На загубу і фізычную — бо іх ждуць Салаўкі з усімі сваімі страшэнствамі, і маральную — бо платныя агенты ГПУ брудзяць іх добрае імя і абвінавачваюць у самай агіднай рэчы: у сьвядомай здрадзе свайго народу.

### Мы і яны.

Дварчанін і ягоныя таварышы, працуючы ў Заходняй Беларусі, былі ворагамі тэй групы культурнікаў, якая сяньня гуртуецца каля нашага часопісу. Да іх акцыі далучыліся і арыштаваныя цяпер у Менску „грамадаўцы" ўраз-жа пасьля выхаду свайго з польскіх вастрогаў. Але мы ніколі не пазвалялі сабе рабіць гэтым недальнавідным, наіўным палітыкам падобных закідаў, як гэта цяпер робяць камуністы і тыя ня менш сьляпыя наступнікі „змаганцаў", што ілжой сваей напаўняюць страніцы „Беларускае Газэты". I калі мы цяпер падымаем наш голас у справе менскіх арыштаў, дык падымаем яго дзеля таго, каб паказаць беларускім масам запраўднае аблічча маскоўскага камунізму, які шляхам зьнішчэньня беларускае інтэлігенцыі, навет найбольш адданае Саветам, імкнецца пазбавіць наш народ ягонага інтэлекту—мысьлячага цэнтру — і тым лягчэй яго абмасковіць.

Няхай-жа беларускія працоўныя масы пазнаюць усю праўду. Няхай ведаюць, што, каб захаваць свой нацыянальны быт, каб здабыць зямлю і людзкія варункі існаваньня, беларускі працоўны народ павінен апірацца не на аблыжна абяцанай дапамозе звонку — бо яе мы ніколі не дачакаемся, а на сваіх уласных сілах, на сваей сьвядомасьці, культурнасьці і арганізованасьці.

Тады—і толькі тады—ніхто нас не пераможа!

---

## Бясприкладная правакацыя.

Наша перадавая стацьця была ўжо напісана і набрана—на падставе газэтных перадрукаў з „знамянітае" брашуры Компартыі, калі ўрэшце ў нашы рукі папаў экзэмпляр гэтае самае брашуры.

Чаго толькі ў ёй няма! Якая там — ад першае да апошняе страніцы, ад першага да апошняга радка — подлая, агідная, сьведамая ілжа!

Паводле гэтае брашуры, арыштаваныя цяпер у Менску беларускія паслы — „грамадаўцы" і „змаганцы" — самі на сябе даясьлі, пасьля арышту. Самі сябе абвясьцілі „агентамі польскае дэфэнзывы", „шпіёнамі", „заклятымі ворагамі і шкоднікамі сялян і работнікаў"—і г. д.

Хто бачыў працу ўсіх гэтых людзей гэтулькі разоў бітых да крыві ў часе сваіх публічных выступленьняў у местах і вёсках Заходняе Беларусі рознымі цёмнымі элемэнтамі (—памятаем, як былі скатаваны Мятла і Валошын, колькі разоў тое ж было з Дварчаніным!), той сам адразу-ж зразумее, чаго вэрты гэтыя закіды. I ясна, што такіх паказаньняў былыя паслы з добрай волі даць не маглі.

Але мы ведаем, якімі спосабамі гэткія паказаньні, заведама фальшывыя і для арыштаваных, і для агентаў ГПУ, вырываюцца ў ахвяр чырвонае катоўні.

Спосаб гэты ведамы пад імем „конвэйера". Там ужо не заганяюць іголак пад пазногці, не ўшчамляюць пальцаў у дзьвярох, ня б'юць шомпаламі да паўсьмерці. Усе гэтыя ўстарэлыя спосабы замяніў „конвэйер".

Арыштаванага прыводзяць у ГПУ. Садзяць за стол. Насупраць сядзіць кат — „сьледавацель". Ззаду за ахвярай—два чырвонаармейцы. Кат пачынае „дапрос". Трэбуе прызнаньня ў-ва ўсіх „праступках", якія выдумала аб арыштаваным ГПУ. Нешчасьлівая ахвяра спачатку цьвёрда адмаўляецца, пратэстуючы проці ілжы. Праходзяць у гутарцы дзьве гадзіны. Кат выходзіць. Праз мінуту зьяўляецца другі—„сьвежы". Паўтараецца тая-ж гісторыя — з тым жа вынікам,

Тады зьяўляецца трэці, чацьверты, пяты і гэтак далей—акуратна праз дзьве гадзіны. І гэта трывае бясспынна ў працягу дня і ночы—адну, дзьве, тры поры. Катаваны гэтым спосабам ня можа заснуць ні на адну мінуту: хай толькі заплюшчацца ў яго вочы і схіліцца галава, дык ззаду ўраз „разбудзяць" яго чырвонаармейцы — ударамі прыкладаў вінтовак. І ніколі ня бывае, каб ахвяра катаваньня „конвэйерам" вытрымала больш двух-трох дзён: каб спыніць гэту муку, арыштаваны ўрэшце падпісвае ўсё, што ад яго патрэбуюць. Абы супачыць, абы заснуць урэшце...

Калі паданыя ў камуністычнай брашуры „паказаньні" Дварчаніна, Кахановіча, Бурсэвіча і інш. запраўды былі імі дадзены, дык ясна, што іх вырвалі гэтым самым „конвэйерам". Бо даволі прачытаць хоць адно із іх, каб зразумець, што з добрае волі яны не маглі быць дадзены.

Вось, да прыкладу, што зьмяшчае быццам дадзенае Дварчаніным паказаньне:

„Існуючая на Савецкай Беларусі контррэвалюцыйная нацдэмаўская арганізацыя, да якой я таксама належаў (—ды такое арганізацыі ніколі ня было і няма!—Рэд.), ставіла перад сабой наступныя мэты і заданьні: зваліць савецкую ўладу ў БССР шляхам узброенага паўстаньня пры дапамозе фашыстоўскай Польшчы, стварыць буржуазна-дэмакратычную беларускую рэспубліку з міністрамі і прэзыдэнтам на чале, уключыць у гэтую буржуазную рэспубліку таксама і Заходнюю Беларусь і цесна зьвязацца з фашыстоўскай Польшчай ( — ды на што-ж гэта, маючы поўную незалежнасьць „з міністрамі і прэзыдэнтам"?!—Рэд.). У гэтай Беларускай Народнай Рэспубліцы мы думалі ўвесьці буржуазную канстытуцыю, якая-б давала ўсе правы і прывілегіі буржуазіі, абшарнікам і кулакам. Мы імкнуліся таксама зноў увесьці капіталістычны лад як у горадзе, так і ў вёсцы, а значыць аддаць назад капіталістам фабрыкі, забраныя ў іх у часе рэвалюцыі, аддаць назад абшарнікам назад іх зямлю (—сканфіскаваную на карысьць сялянства якраз Радай Беларускае Народнае Рэспублікі!—Рэд.), сагнаўшы з яе сялян-калгасьнікаў, вярнуць на свае мейсца кулакоў, даўшы ім зямлю, якой цяпер карыстаюцца былыя беднякі і серадзнякі—калгасьнікі і сяляне паасобнікі. Далей мы хацелі скасаваць усе правы, якімі рабочыя карыстаюцца цяпер у Савецкай Беларусі: скасаваць 7-8 гадзінны дзень, сацыяльнае забясьпечаньне, прафэсіянальныя саюзы і г. д., апроч таго мы хацелі стварыць буржуазнае войска і паліцыю, увесьці буржуазную сыстэму падаткаў, галоўны цяжар перакладаючы на працоўных"...

Хто прачытае гэтае „паказаньне", той пэўне падумае, што Дварчанін звар'яцеў! Але не: калі гэтае паказаньне існуе, дык яно вырвана шляхам катаваньня.

Такія-ж паказаньні і другіх. Кахановіч кажа аб Беларускім Пасольскім Клюбе, на чале якога стаяў Тарашкевіч — адзіны беларускі пасол, які ў Саветах пакуль-што яшчэ на волі,—што быццам „кіраўнікі Клюбу і ўсе яго члены былі зьвязаны з дэфэнзывай і ўсю працу сваю вялі паводле ўказаньняў дэфэнзывы". Тое-ж самае кажа Бурсэвіч аб „Грамадзе". Тое-ж самае — Рак-Міхайлоўскі. Такі-ж закід робіцца і „Змаганьню"...

І гэта друкуецца дзеля пашырэньня ў беларускіх масах тэй самай Камуністычнай Партыяй, каторая ў часе існаваньня „Грамады" і „Змаганьня" абвяшчала гэтыя арганізацыі камуністычнай экспозытурай і заяўляла, што абедзьве яны вялі сваю працу пад кіраўніцтвам Компартыі! А цяпер публікуецца наадварот: не Компартыя, а польская дэфэнзыва кіравала імі... Дык чаму-ж верыць? І ці не зьлівалася якраз Компартыя з дэфэнзывай — праз такіх сваіх павадыроў, як ведамыя ўжо правакатары Вышынскі (Беласток), Більскі-Бабіч, Гурын, Кузьма, Шык і дзесяткі іншых? Іх усіх ведае Заходняя Беларусь: праз іх соткі сялян былі скатаваны і пасаджаны за краты,— а цяпер гэтыя самыя Юды і іх нявыкрытыя яшчэ наступнікі ўсе свае подласьці стараюцца перакінуць на беларускіх пасдоў — такія-ж ахвяры камуністычнае правакацыі.

Трэба сказаць, што падлейшае правакацыі, чым гэная камуністычная брашура, сьвет хіба ня бачыў! А каб зрабіць сваю ілжу падобнай да веры, правакатары падаюць нябылыя гутаркі гр. Луцкевіча з марш. Пілсудскім, укладаючы ў іх вусны сьвежа выдуманыя пляны паняволеньня беларускага народу Польшчай... Падаюць такую-ж нябылую гутарку гр. Стэповіча з ваяводай Кі тіклісам... І ўсё гэта — ў такой форме, быццам агенты ГПУ стаялі тут-жа і стэнографічна запісвалі кожнае слова, якіх... ніхто ніколі не гаварыў!

Прыкладаў гэтых—даволі. Правакацыя больш чым ясная. Ведама ўсім, што ніякага процісавецкага „Беларускага Цэнтру" ў Заходняй Беларусі няма, што гр. Луцкевіч ні да якое супольнае арганізацыі з кс. Станкевічам не належыць, а, наадварот, кс. Станкевіч вядзе проці гр. Луцкевіча непрымірымую барацьбу, ужываючы такіх самых спосабаў, як разгляданая камуністычная брашура. Дык — годзе аб ёй! Яна разьлічана хіба на зусім цёмных і дурных людзей, да якіх друкаванае слова наагул не даходзіць.

Але мусім сказаць яшчэ аб Компартыі.

Гэтая найнавейшая камуністычная правакацыя, беспрыкладная ў нашым жыцьці, паказвае, што камуністы канчаткова ідэйна збанкрутавалі. Ім ужо ніхто ня верыць: ня вераць сяляне, якіх яны аграбілі з зямлі і ператварылі ў сваіх парабкоў; ня вераць работнікі, каторых агенты новага Азефа — Сталіна—толькі дэзорганізуюць, падводзяць пад кулі, заганяюць на катаргу. Лгаць, лгаць і лгаць — вось адно, што цяпер асталося гэтай магутнай некалі ў нас партыі, захапляўшай людзей ня толькі далярамі, але і сваей ідэяй. Цяпер яе ўжо няма: ёсьць толькі банда платных агентаў Сталіна, і ніводзін ідэйны бела-

рус у гэту банду ўжо ня пойдзе.

**Ганьба правакатарам!**

Ганьба падвойная: бо-ж і мэты сваей яны не дасягнуць. Імкненьне Сталіна і ягоных платных наймітаў прадставіць беларускі адраджэнскі рух, як прыладу Польшчы ў барацьбе з Саветамі, дарэмнае: і малыя дзеці ўжо ведаюць, што наш рух старэйшы і за Компартыю, і за Саветы, і за адноўленую Польшчу. Наш рух паўстаў, як выяўленьне волі Беларускага Народу да жыцьця, і гэтае волі жывога народу, волі збуджанае з адвечнага сну народнае масы не заб'ець ні фізычны гвалт, ні дэмаралізаваньне, ні правакацыя з боку варожых сілаў.

Народ Беларускі і новую Голгофу ператрывае.

# Голад.

Гэтае страшное слова аб нашым краю зьявілася ўжо на страніцах урадавае прэсы. На паседжаньні польскага абывацельскага камітэту дзеля дапамогі галадаючаму насяленьню віленскага ваяводзтва прадстаўнік ваяводзкага ўраду п. Цівунькі *) прачытаў даклад, паводле якога—у выніку неўраджаю 1933 году — на тэрыторыі Віленшчыны галадае ўжо каля 20.000 сялянскіх сямей (лічучы па 5 душ у сям'і—100.000 асоб). Жыта і пшаніца дала збору мала болей, чым у галодным 1928 годзе; збор ячменю, аўсу, гароху — шмат меншы, чым у 1928 г.; бульба, падстава харчаваньня селяніна і ягонае сям'і, дала ледзь каля паловы нармальнага збору. І вось, як гэта сьцьвярджаюць аднагалосна войты, аграномы і сельска-гаспадарчыя арганізацыі, малазямельныя гаспадаркі ня толькі ня здолеюць пракарміць да вясны сваіх працаўнікоў, але ня будуць мець і чым абсеяць зямлю. Ужо цяпер у некаторых паветах прыходзяць у школы папухшыя ад голаду дзеці; а што будзе далей, папросту жах падумаць! У адным дзісенскім павеце запатрабавана дапамога дзеля дакармліваньня 20 тысяч дзяцей школьнага веку...

Вось абраз, які малююць афіцыяльныя цыфры. Думаем аднак, што запраўднасьць, як заўсёды, акажацца яшчэ страшнейшай і не абмежыцца Віленшчынай. Бо-ж за месяц-другі пачнуць галадаць і тыя, хто сяньня йшчэ мае кусок хлеба: спагон падаткаў, залегласьцяў, пазыкі на насеў з 1928 году і т. п.—дагэтуль у нас ня спынены і адбываецца далей з аўтаматычнай жорсткасьцяй...

Урад пастанавіў прыйсьці з дапамогай галадаючым—і на дакармліваньне, і на веснавую сяўбу. Пастанову гэтую трэба шчыра прывітаць. Але мы ня ведаем, як, якімі шляхамі будзе гэтая дапамога давацца нашаму сялянству. А тым часам ад таго ці іншага адказу на гэтае пытаньне будзе залежаць вельмі многа.

Акцыя дапамогі павінна быць пастаўлена на шырокі грамадзкі грунт. Урад, як відаць, сам прызнае слушнасьць гэтага вымаганьня, бо патвaрыў ужо на правінцыі павятовыя камітэты дапамогі ды склікаў абывацельскі камітэт дзеля дапамогі галадаючым у Вільні, каторы мае адыграць ролю як-быццам цэнтралі. Але справа ў тым, што, запрашаючы прадстаўнікоў грамадзянства, улады зрабілі гэта аднабока і зусім абмінулі беларускае грамадзянства, каторае якраз стаіць найбліжэй да галадаючага беларускага сялянства і магло-б быць найбольш кампэтэнтным у праводжаньні акцыі дакармліваньня вёскі. Трэба думаць, што той-жа прынцып: рабіць усё толькі польскімі рукамі (хоць грошы ў дзяржаўны скарб, скуль даецца дапамога, ідуць і з кішэняў беларускіх!), прыняты ў аснову тварэньня і павятовых камітэтаў—з яўнай шкодай дзеля справы.

Падмога галадаючым—гэта справа агульна грамадзкая, і монополізаваньне раздаваньня хлеба галодным беларускім сялянам толькі праз польскія рукі мае характар чыста палітычны. І гэта ад'емная рыса на гэй шляхотнай і важнай акцыі, якая распачата ўрадам. Катастрофа, якая спаткала наш край у выніку леташняга неўраджаю, залішне страшная, каб да ратаваньня галадаючых можна было падыходзіць з палітычнай меркай. Каб дапамога дайшла да тых, каму яна прызначана, трэба прыцягнуць да акцыі дакармліваньня прадстаўнікоў заінтэрэсаванае сялянскае масы — прадстаўнікоў нізоў народных: яны найлепш ведаюць, хто запраўды патрабуе помачы, і напэўна не зрабілі-бы тых абмылак, якія заўсёды няўхільны ў шырокіх грамадзкіх пачынаньнях гэтага роду.

**Дайце голас самой вёсцы!**

# Гаспадарчы аддзел.

## Якія каровы і пры якіх умовах даюць найболей малака.

Надыйшлі ўжо часы, калі гадоўля жывёлы можа быць аплатнай у нашых варунках толькі пры ўмове высокай прадуктыўнасьці гэтае жывёлы. Нельга загэтым трымаць такіх кароў, якія даюць мала малака і стаяць у хляве фактычна для гною. Трэба старацца, каб дойная жывёла ў нас запраўды была дойнай. Аднак многія могуць сказаць: нашто нам дбаць аб дойнасьці свае жывёлы, калі малако таннае і няма куды яго збыць? Гэты закід да пэўнае меры мае слушнасьць. Але і на гэта ёсьць рада. Трэба самім старацца аб збыт; трэба тварыць малочныя кооператывы. Але калі-б нават з тых ці іншых прычынаў кооператыўнае малачарні хутка арганізаваць і не ўдалося, то, пры большай колькасьці малака, можна ім замяніць іншыя прадукты дзеля ежы, як сала і мяса, а прадаваць сьвіней. Каротка кажучы, добрая дой-

*) Падаем ягоныя інформацыі паводле „Кур. Віл." з 17 студня 1934 г.

ная жывёла, так ці іначай, заўсёды будзе карыснай для гаспадара.

Найгалаўнейшыя вонкавыя прыкметы, па каторым пазнаецца малочная карова, ёсьць наступныя:

1) Здаровы выгляд, а разам з гэтым відавочны тып самкі.

2) Доўгая, вузкая і сухарлявая галава; вочы вялікія і лагодныя; рогі тонкія і гладкія, а вушы ценкія з рэдкаю шэрсьцяй.

3) Прасторныя, шырокія і доўгія грудзі; рэбры павінны быць так шырака расстаўлены, каб паміж астатнім і перадастатнім рабром можна было ўлажыць 2-3 пальцы.Вялікае значэньне мае крыж, які мусіць быць доўгі і шырокі.

4). Скура таксама ёсьць добрым паказальнікам малочнасьці. Скура добрае каровы тонкая і лёгка адстае ад цела, а на шыі творыць шмат спускаючыхся ўніз хвалдачак. Шэрсьць кароткая і бліскучая.

5). Вымя павінна быць вялікае, але не мясістае. Вымя ў добрай каровы выпуклае і ясна на дзьве паловы падзеленае. Струкі (дойкі) значна ад сябе аддаленыя, доўгія, пры вымі таўсьцейшыя, а на канцы ценейшыя. Аднак, струкі ценкія і на канцы вельмі тоненькія—нядобрыя, бо з такога вымя малако само выцякае.

6) Добрай адзнакай зьяўляецца таўшчыня малочнае жылы, якая цягнецца ад вымя к грудзём і тут увaходзіць у бруха. У месцы ўваходу жылы ў бруха знаходзіцца ямка, якая завецца малочнай крыніцай. Чым гэтая ямка большая, тым лепей.

На вонкавыя прыкметы зусім пакладацца нельга, і служыць яны могуць болей для арыентацыі, чым для ўстанаўленьня запраўднай малочнай здольнасьці каровы. Толькі кантроль малочнасьці можа на гэта даць беспамылковы адказ.

Прадуктыўная здольнасьць малочнае каровы ня ёсьць праз увесь час яе жыцьця аднолькавая. Па першым цяляці яна параўнаўча дае мала малака і гэтую колькасьць з кожным далейшым цялём павялічвае, потым затрымліваецца, а далей ізноў пачынае зьмяншаць удоі. Практыкаю ўстаноўлена, што найболей даюць каровы малака пачынаючы пятым і канчаючы сёмым цялём. Удоі каровы пасьля дзясятага цяляці прыблізна такія, як пасьля першага. Сканстатавана таксама, што гэты рост дойнасьці можа падняцца аж на адну траціну вышэй першапачатковай, але ўсё гэта магчыма, бязумоўна, пры адпаведным кармленьні, дaглядзе і добрым даеньні. Апрача ўсяго гэтага з векам у каровы мяняецца да пэўнай меры і якасьць малака. Ад пятага і да сёмага цяляці малако ў каровы найтлусьцейшае.Праўда, тлустасьць малака ўтрымліваецца даўжэйшы час і не спадае так хутка, як колькасьць. З. К.

---

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**З Беларускага Музэю ім. Ів. Луцкевіча.** Ад пачатку 1932 году ў Беларускім Музэі заведзена спэцыяльная кніга, у якой упісываюць свае імёны ўсе, хто адведывае Музэй дзеля агляду ці працы ў ім. Гэтак можна заўсёды відавочна пераканацца аб тым зацікаўленьні, якое выяўляе грамадзянства ў адносінах да сабраных у Музэі нашых нацыянальных скарбаў.

Паводле гэтых запісаў выходзе, што ў 1932 г. лічба адведываючых не перавышала 500 асоб. Затое ў 1933 г. яна значна ўзрастае: агулам адведала Музэй 1320 асоб, у тым — 48 экскурсіяў, пераважна школьных. Так сама ўзрасла лічба асоб, карыстаючыхся бібліотэкай пры Музэі, дзе сабрана багата матэрыялаў да беларусаведаньня.

У мінулым годзе ў Музэі працаваў цэлы рад навукоўцаў — прафэсароў (з Польшчы і з заграніцы), студэнтаў і інш.

Гожа адзначыць, што ні ў водным польскім „праваднiку" па Вільні аб Беларускім Музэі нельга знайсьці навет... упамінаньня!

**Сымпатычны водгук.** Пасьля таго, як у сьнежні мінулага году ўладамі была спынена дзяржаўная дапамога для Беларускага Музэю ім. Ів. Луцкевіча, сярод беларускае інтэлігенцыі пачалася акцыя дзеля забясьпечаньня прынамся аплаты за памяшчэньне, займанае Музэем. Але першая чынная дапамога для Музэю прыйшла не з боку беларусаў: першы адгукнуўся украінец — Мітрапаліт Андрэй Шэптыцкі, прысылаючы 100 зл.

Гожа адзначыць, што справу Музэю горача прынялі да сэрца і некаторыя польскія навукоўцы,заахвяраўшыя сваю інтэрвэнцыю ў кірунку ўзнаўленьня дапамогі.

У студні месяцы дапамога была ўзноўлена.

Такім парадкам „трыумф" органу кс. Станкевіча, горача вітаўшага спыненьне ўладамі дапамогі для Музэю і пры гэтай аказіі надрукаваўшага агідны пасквіль на Музэй і яго працаўнікоў у „Бел. Крыніцы", — аказаўся пануль-што перадчасным.

**Лекцыя ў Т-ве прыяцеляў Беларусаведы пры Віленскім Унівэрсытэце.** 21. І. 33 адбылася у Т-ве Пр. Бел. у Вільні лекцыя д-ра Я. Станкевіча на тэму: „Рэформа беларускага правапісу ў Менску", у якой прэлегент прыводзіў навуковыя аргумэнты проціў рэформы і даказываў, што яна ня згодна з духам белар. мовы. Падчас даўгой і цікавай дыскусыі д-р Я. Станкевіч абразіў прысутнага на лекцыі гр. С. Паўловіча, які ў знак пратэсту пакінуў салю.

Наагул трэба адзначыць, што д-р Станкевіч часта ўпадаў у неўласьцівы „навукоўцу" тон і гэтым шкодзіў слушнай справе, якую бараніў. Агульнае зьдзіўленьне выклікалі ягоныя выпады проці Бел. Навуковага Т-ва, у якім ён займае становішча сябры Ураду. Пры апрацоўцы ведамага пратэсту Бел. Нав. Т-ва проці савецкае рэформы правапісу д-р Станкевіч ухіліўся ад запрапанаванага яму супрацоўніцтва, — а на сваей лекцыі ў часе дыскусіі казаў, што яго „не запрашалі". Гэту заяву яго тут-жа спраставаў прысутны сэкрэтар ураду Т-ва д-р М. Ільяшэвіч.

— У наступную нядзелю, 28 студня, будзе чытаць лекцыю гр. **В. Пецюкевіч** на тэму **„Беларуская Этнаграфія у БССР за апошнія 15 гадоў"**, — а 4 лютага гр. **А. Луцкевіч** прачытае лекцыю **„У 50-ыя ўгодкі выхаду Гомана"**.

Пачатак лекцыяў у 5 гадз.

## На правінцыі.

**Беларуская лекцыя.** (Будслаў, Вялейскага пав.). 1 студзеня 1934 г. ў валаснай салі Будслаўскае гміны вучыцель Белар. Філіі Дзярж. Гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні В. Грышкевіч прачытаў публічную лекцыю на тэму: „Беларуская справа ў БССР", у якой перадусім выясьніў прысутным сутнасьць слоў—Беларуская Справа, калі яна паўстала, якое мае значэньне, ды які быў разьвой яе ў Савецкім Саюзе да апошніх дзён. На лекцыі было хрысутных болей 150 асоб. Было-б удвая больш, каб абвесткі былі расклееены загадзя, але дзеля таго, што зьявіліся яны толькі ў дзень лекцыі, дык шмат хто з вакалічных вёсак ня ведаў і шкадаваў аб гэтым. Пажадана, каб людзі з цэнтру часьцей адведвалі нашу правінцыю і выступалі тут з лекцыямі. **Прысутны.**

**Дзяўчаты ў нас бяруцца да працы.** (Вёска Сьпягліца, Вішнеўскае гміны). Дзеля таго, што беларуская жаноцкая арганізацыя, якая ёсьць у Вільні, працы на вёсцы не вядзе, жаноцкая моладзь арганізуецца ў чужых нацыянальна арганізацыях, але ўсё-ж сваей беларускасьці крэпка дзержыцца. У лістападзе мінулага году ў нашай вёсцы заложана „Koło Gospodyń Wiejskich", у каторым згуртаваліся маладыя дзяўчаты і некалькі жанчын больш усьвядомленых. У першыя-ж месяцы сваей арганізацыйнай працы гурток гэты паказаў сваю здольнасьць да жыцьця: была запрошана інструктарка, якая правяла курс гатаваньня; прачытана пара лекцыяў, адна з іх — аб гігіене — пабеларуску (студэнтам-мэдыкам Віленскага Унівэрсытэту); а 6 студня 1934 г. зладзілі спэктакль. На сцэне адыгралі дзьве п'ескі: адну беларускую („Ня розумам сьцяміў, а сэрцам"), другую — польскую. Публікі сабралася поўная хата, ажно зацесна было. Артысты-аматары ігралі вельмі добра. На заканчэньне адбыліся танцы. Найбольш публіка была захоплена беларускімі танцамі і не жалела воплескаў.

Чэсьць беларускім дзяўчатам, у якіх збудзілася беларуская сьвядомасьць, ды якія так шчыра бяруцца за грамадзкую працу! Працуйце і далей, каб падняць культуру і сьвядомасьць у роднай вёсцы, давайце сваей працай прыклад іншым вёскам!

**Падарожны.**

**„Антыпаньствовец".** З м. Вішнева, Вялейскага пав., мы атрымалі пісьмо ад ведамага там сваей культурнай працай грамадзяніна, катораму ніжэйшыя паліцэйскія ўлады жыцьця не даюць адно толькі за тое, што ён беларус, што гэтага не ўкрывае, гаворыць пабеларуску, выпісывае сам і дае чытаць другім беларускія кніжкі ды газэты. Усюды яго называюць за гэта „антыпаньствоўцам", хоць ён з аружжам у руках бараніў Польшчу і навет займаў нейкі час адказнае становішча ў павеце. Карэспандэнт наш адзначае, што гэткая няўдзячнасьць ведама ўсяму наваколаьнаму беларускаму сялянству і робіць зусім немагчымым наладжаньне добрага сужыцьця з палякамі. — У гэтым ён мае поўную рацыю!

# Палітычная хроніка.

**Бюджэт Мін. Асьветы.** Пасьля сьвятаў узнавілася праца парляманту, а першым чынам яго бюджэтнае камісіі.

Асабліва цікавіць нас дыскусія над бюджэтам асьветы.

Паводле дакладчыка, выдаткі на асьвету (разам з рэлігіямі) зьменшаны на 1934-35 г. на 13 мільёнаў да сумы 312 міл. Колькасьць вучыцялёў засталася тая самая. А тымчасам колькасьць дзяцей школьнага веку ўсьцяж расьце і за 1932-33 г. узрасла, як ніколі, бо аж на 392.000. Разам з прыростам за бягучы год і „залегласьцямі" мінулых каля паўмільёну дзяцей школьнага веку змушаны застацца па-за школай. З другога боку—на тую-ж лічбу вучыцялёў прышлося дадаць у нязначна-павялічаныя школьныя будынкі новых паўмільёну дзяцей, павялічыўшы тым з шкодай для вучняў працу вучыцеля.

У часе дыскусіі п. міністар асьветы сказаў дзьве вялікія прамовы.

У першай прамове адзначым слушную думку аб тым, што „асновай асьветнай палітыкі наагул павінна быць арганізацыя школьніцтва, абапертая на рэальны грунт культурных і гаспадарчых патрэбаў"—народу, дадамо ад сябе. Чаму вось толькі з гэтай слушнай асноўнай ідэі ня робяцца лёгічна і пэдагагічна няўхільныя вывады: ня будуецца беларускаму народу ў Польшчы нацыянальная школа на адзіна-рэальным у пэдагогіі грунце роднае мовы і культуры народу? Гэтае палючае для беларускага народу ў Польшчы пытаньне тым больш актуальна, што сам п. міністар асьветы—у сваей другой прамове—з асаблівай увагай адвёсся да пытаньня аб школьніцтве украінскім. „Ніхто,— казаў п. міністар,—хіба-ж не закіне мне ней-

кай няпрыхільнасьці („niechęci") да ўкраінскага народу". Але—„зьбіраемо цяпер плады памылак, зробленых з абодвух бакоў. Сеньня можа якраз пара паправіць гэтыя памылкі, спыніць урэшце вострую барацьбу на абшарах з зьмешаным насяленьнем дый распачаць згоднае сужыцьцё народаў". П. міністар заявіў урачыста, што ён загадаў толькі што „яшчэ раз апрацаваць цэлы камплекс пытаньняў, зьвязаных з украінскім школьніцтвам, каб дакладна разважыць, якія зьмены ў гэтай справе можна зрэалізаваць".

Аб беларускім школьніцтве п. міністар, нажаль, не сказаў зусім ані слова. Але-ж ня можам дапусьціць, каб у справе роднай школы для розных народаў у Польшчы рашучую ролю ігралі палітычныя аргуманты (ператварэньне „вострай барацьбы" у „згоднае сужыцьцё"), а не йгралі ніякай ролі матывы культурна-педагагічныя! Бо-ж інакш „уступкі" украінскаму народу ў Польшчы ў справе роднай школы выглядалі-б як быццам нейкая дзіўная „прэмія" за... папярэднюю „вострую барацьбу: сабатажы, забастоўкі" і іншыя яе страшныя праявы, аб якіх так многа казаў п. міністар.

---

**Нямецкі адказ на французскую ноту.** Французскі ўрад атрымаў нарэшце нямецкі адказ на свой мэморыял у справе „разбраеньня". Таксама, як Францыя на блізу ўсе дамаганьні Нямеччыны адказала ў сваім мэморыяле „не!",—і Нямеччына ў сваім адказе адкідае блізу ўсе „кампрамісныя" прапазыцыі Францыі.

Першым чынам адкідае Гітлер усялякія „пробныя пэрыяды", у часе якіх мае быць падмуравана бясьпечнасьць і мір, а толькі пасьля таго дазволена будзе Нямеччыне „дазбраеньне", або зьдзейсьнена разбраеньне Францыі. Гэткія „спробы" пабудаваны на недаверы да Нямеччыны, дык—абражаюць яе годнасьць...

Прапанаваную Францыяй лічбу нямецкай арміі (200 000) Гітлер уважае залішне малой дзеля аховы бясьпечнасьці Нямеччыны ярод яе азброеных да зубоў суседзяў. Новая армія ў Нямеччыне павінна складацца з 300.000 жаўнераў і мець усе прызнаныя абароннымі роды збраеньняў, якія маюць усе іншыя дзяржавы.

Гітлер згаджаецца на кантроль усіх ваенных арганізацыяў, але пад варункам абавязковасьці яго і для ўсіх іншых дзяржаў.

Урэшце, уступка Францыі, якая згаджаецца напалову зьменшыць свой ваенны паветраны флёт, дае Нямеччыне вельмі мала карысьці, калі ёй надалей забаронена будзе мець свой ваенны паветраны флёт.

Даючы такі рашучы адмоўны адказ, Гітлер аднак-жа ветліва прапануе французскаму ўраду надалей весьці дыплёматычныя перагаворы з ім адзін-на-адзін, бо-ж такім шляхам... найлягчэй дагаварыцца! А яшчэ лепей, зразумела-ж, немцам выйграць час — дзеля фактычнага дазбраеньня!...

**Залатая апэрацыя прэзыдэнта Рузвэльта.** Прэзыдэнт Рузвэльт, стаўшыся запраўдным дыктатарам у фінансава-прамысловым жыцьці Амэрыкі, выкарыстывае сваю ўладу запраўды-ж з нячуванай энэргіяй. Абвясьціўшы нядаўна дэкрэт аа абавязковай здачы блізу ўсяго золата ў краі дзяржаўнаму скарбу, ён мае зрабіць запраўды-ж „залаты інтэрэс" нябывалага маштабу. Першым чынам ён мае рэквізаваць усё золата фэдэральных банкаў, плоцячы за яго „залатым далярам" (старога курсу)—усяго на суму 4 мільярдаў. Пасьля таго ён афіцыяльна зьмяншае курс даляра на палову і прадае назад усё гэтае золата банкам за падвойную цану. Такім чынам, у руках скарбу астанецца „чыстага зыску"— 4 мільярды даляраў, якія пойдуць на „гаспадарчае ажыўленьне краю".

## Рэформа савецкага ладу

Маскоўская „Праўда", афіцыяльны орган ЦК Ком-партыі, даносіць аб распачатай грунтоўнай рэформе ўсяго савецкага ладу— на падставе новага статуту Ком партыі. З аднаго боку, гэты новы статут страшэнна завастрае дысцыпліну ў партыі дый затрудняе доступ у яе для шырокіх масаў насяленьня; з другога боку, новы статут яшчэ больш і консэквэнтней падчыняе партыі ўсё дзяржаўнае жыцьцё. Такім чынам, Компартыя робіцца яшчэ больш, чым дагэтуль, зачыненай і паўнаўладнай у краі кастай. Пры гэтым аднак новы статут касуе канчаткова ўсялякія рэшткі „колегіяльнасьці", даючы „начальнікам асобных часьцін" усю поўню ўлады—пры поўнай асабістай адказнасьці (так званае „единоначалие").

Што ў выніку гэтай запраўды-ж грунтоўнай рэформы асталося ад „савецкага" ладу дый камунізму, трэба, відаць, шукаць днём з агнём...

---

# Паштовая скрынка.

Гр. П. Шчотка, в. Хадаўляны, п. Наваградзкі. Падпіску на газэту „Р.К." 1,20 зл. атрымалі; календар са сьценкай высланы.

К. Грышэль, Навасёлкі, Маладэчанскі павет—3 зл. за календары атрымалі. Згодна з Вашай просьбай выслана Вам яшчэ 10 календароў.

Гр. Р. Томчуку ў в. Андрыякі. Просьбу Вашу выканалі.

Гр. Міцкевічу Вал. у с. Мікалаеўшчына. Газэту высылаем ад № 1 (26) — ад Новага Году. Шлеце падпіску.

Гр. Зорку Язэпу ўв. Макашы. Вельмі нас цешыць, што часопіс наш, як пішаце вы, вельмі спадабаўся. Ведаем, што з грашыма цяжка на вёсцы, але рабеце складкі на падпіску. Тымчасам высылаем у крэдыт.

Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ.—Выдавец: ТБА. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22